# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

нехай живе 1 мая

XVIII





№ 7

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

7 ГОД ВЫДАНЬНЯ 4

1932 г. Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ


## ПЕРШАМАЙСКАЯ ПЕСЬНЯ

Тэмп марша. Мэлёдыя В. Яфімава.













Наша юная раць
Ідзе стройна у рад,
Моцна сьцяг свой чырвоны
трымае.
Песьні звонкія ў іх,
Твар вясёлы ва ўсіх,
Бо сьвяткуем мы 1-е мая.

Ў гэты радасны дзень
На парад мы ідзем,
Дзе сьцягі чырванеюць,
плякаты.
А назаўтра ізноў
Дружна ў школу гуртом
Пабягуць юнакі-акцябраты.


Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

# СЬВЯТА змаганьня і перамог

XVIII 8019 (III)



Першае мая—сьвята працоўных усяго сьвету.

Працоўныя буржуазных краін і іх дзеці ў гэты дзень выйдуць пад сьцягамі змаганьня супроць прыгнятальнікаў.

— За хлеб і работу, супроць голаду і жабрацтва!

— Супроць вайны з СССР, якую рыхтуе нам буржуазія!

— За савецкую ўладу ва ўсім сьвеце!

Дзень першага мая за мяжой будзе днём змаганьня працы з капіталам.

Мы ў краіне Саветаў вольна сьвяткуем гэтае сьвята.

Новымі посьпехамі і дасягненьнямі адзначаем мы 1-е мая.

У гэты дзень уваходзіць у строй пяцігодкі Днепрабуд. Гэта гігант, роўнага якому няма ў сьвеце.

Нядаўна пушчана ў работу першая ў СССР магутная домна ў Магнітагорску. Пушчан Дзяржаўны падшыпнікавы завод.

Усё гэта толькі галоўныя падарункі першаму маю.

Сьвята першага мая ў краіне Саветаў—гэта сьвята радасьці, сьвята перамог.

Дзеці вольнай краіны! У дзень першага мая мы павінны яшчэ больш узмацніць сувязь з сваімі замежнымі таварышамі, дапамагчы ім. Правядзем збор інтэрнацыянальнага пятачка ў карысьць галадаючых дзяцей. Напішам ім лісты аб сваім жыцьці.

У дзень першага мая праверым, як мы змагаемся за вучобу, за палітэхнічную школу. Ці добра выконваем мы пастанову ЦК партыі аб школе?

Будзем актыўнымі ўдзельнікамі пяцігодкі вялікага будаўніцтва!





# ДЗІЎНАЕ СЬВЯТА

Апавяд. АЛЕЙНІКАВА
Малюнкі ІЗМАЙЛАВА

Мой брат жыў у суседнім пакоі.

Кожны вечар да яго зьбіраліся розныя людзі і гутарылі між сабою.

Я вельмі цікавіўся іх гутаркаю і, каб падслухаць, кожны вечар падыходзіў да дзьвярэй.

Аднойчы я пачуў:

— Ну, таварышы, рыхтуйцеся! На тым тыдні ў аўторак сьвята.

Далей я ня слухаў.

Я пабег у другі пакой і зьняў насьценны адрыўны каляндар. Калі праўда, што будзе сьвята, то будзе надрукавана чырвонай фарбай.

Я перагарнуў каляндар. 18 красавіка. Надрукавана чорным. „Ашукалі",—падумаў я.

І чуць не заплакаў.

А сьвяткаваць я вельмі любіў.

У той час мне было адзінаццаць год, але я ўжо працаваў на заводзе рабочым—„хлопчыкам". Гэта значыць, быў у майстэрні за пасланца.

Пасьля такой работы ў мяне заўсёды балелі ногі. Вось чаму я любіў сьвяткаваць.

Бывала перагортваю каляндар і падлічваю чырвоныя сьвяточныя лісточкі. Многа было царкоўных сьвят—каляды, вялікдзень, тройца і інш.

Былі яшчэ і царскія дні. Гэта калі цар або яго жонка, або дзеці і сваякі спраўлялі свае імяніны.

У гэтыя дні наш дворнік лез на браму і выстаўляў там сьцяг. Царскі сьцяг. Трохкаляровы. Зьверху белае палотнішча, у сярэдзіне—сіняе, а зьнізу—чырвонае.

На другі дзень я пашоў на завод. Там гаварылі зноў пра сьвята.

Двое рабочых стаялі каля варштата і адзін з іх казаў:

— Праз чатыры дні будзе сьвята. Трэба сьцягі рыхтаваць.

Тут я ўжо ня вытрымаў. Падышоў да галоўнага майстра і запытаў:

— Глеб Іванавіч, ці праўда, што ў аўторак сьвята?

Майстар схапіў мяне за віхор, як гадзіна, засыкаў:

— Сьвяткаваць захацеў? Пачакай, я табе пасьвяткую! У гэты дзень будзеш падлогу мыць у канторы. Шчанюк!

А дома брат паклікаў мяне і сказаў:

— Вось што, Сымонка! Ты павінен памагчы мне. Скора сьвята. Для сьцягу трэба дастаць чырвонага палатна ды істужак. Ты, можа, украдзеш у маткі і сястры. Толькі, глядзі, маўчы і нікому не прагаварыся!

„Што гэта за сьвята?“—падумаў я. І ў каляндары яго няма, і майстар злуецца, і гаварыць пра гэта сьвята нікому няможна. І чырвоныя істужкі на нешта патрэбны“.

Прышоў чаканы аўторак.

У 6 гадзін раніцы загулі гудкі на заводзе. Значыць, на работу трэба ісьці. Значыць, і сьвята няма. У сьвята гудкі ня гудуць.

Пашоў і я на завод. Падыходжу да свае майстэрні—ціха. Каля варштату няма нікога. А на сьцяне наклеена папера. На ёй бледнымі сінімі літарамі надрукавана:

**Годзе!**

**Кідайце, таварышы, работу! Спыняйце хутчэй маторы!**

**Давайце сыгнальны гудок!**

**Шырэй адчыняйце брамы майстэрні! Выходзьце на вуліцу, таварышы!**

**Сёньня наша ўрачыстае сьвята—першае мая!**

А далей было напісана вось што:

**„Сёньня асаблівае сьвята. Яго няма ў календарох.**

**У гэты дзень папы ня звоняць у званы і не адпраўляюць малебнаў.**

**Яны ня зьбіраюць ні яек, ні хлеба, ні грошай. Хто-ж і для каго ўтварыў гэта дзіўнае сьвята? Яго ўтварылі рабочыя для рабочых“.**

Я чытаў далей:

**У 1889 годзе ў Парыжы быў зьезд рабочых усяго сьвету.**

**Прыехалі на гэты зьезд і немцы, і расійцы, і ангельцы, і швэды, і італьянцы, і палякі. На ўсім сьвеце рабочым жыць цяжка. Яны працуюць 12—14 і нават 16 гадзін у дзень. І зьезд пастанавіў, каб у дзень 1-га мая рабочыя ўсіх краін кінулі работу, вышлі на вуліцу і сказалі:**

**— Мы патрабуем васьмігадзіннага рабочага дня! Мы патрабуем лепшага жыцьця. Няхай дзень 1-га мая назаўсёды будзе сьвятам для рабочых усяго сьвету“.**

Не пасьпеў я добра разабраць гэту абвестку, як у майстэрню ўбег Глеб Іванавіч.

Ён убачыў, што ў майстэрні нікога няма, затупаў нагамі і закрычаў:

— Разьлічу! Усіх разьлічу! Дармаеды! У будны дзень сьвята зрабілі!

Потым падбег да мяне, убачыў, што я чытаю, стукнуў мяне па патыліцы, садраў са сьцяны паперу і закрычаў:

— Ты што гэта чытаеш? У турму захацеў?

Першы раз я пачуў, што за паперку ў турму садзяць.

Тымчасам каля брамы сабраліся рабочыя. Паміж іх і мой брат. У руках у яго чатыры царскія сьцягі.

— А дзе-ж чырвоны сьцяг? — запытаў у брата адзін рабочы з нашага цэху.

— Вось вам чырвоныя сьцягі,— адказаў брат,— нясеце ў лес.

— Дык гэта-ж царскія!

— Нічога, — адказаў брат. — Былі царскія, а стануць пралетарскія, нясеце.

Мы ўзялі пад пахі царскія сьцягі і пашлі па вуліцы.

Сустракалі паліцэйскіх. Але ніхто з іх не зьвярнуў на нас увагі.

Мы спакойна вышлі за горад. Вось мы падышлі да лесу, брат узяў ад нас сьцягі, адарваў верхнія белыя палотнішчы, а потым сярэднія—сінія, заста-



ліся толькі ніжнія палотнішчы—чырвоныя.

— Ну, вось і чырвоныя сьцягі!

**Р**аптам я пачуў —сьпяваюць. І такой песьні я ніколі ня чуў:

„Стары парадак мы
зруйнуем
Магутным выбухам сваім,
І сьвет на новы лад
збудуем:
Хто быў нічым, той будзе
ўсім!“

**М**нога людзей сьпявае, а нікога ня відаць. Мы прайшлі яшчэ крокаў сто. Я ўбачыў вялікі гай. А ў ім народу многа, многа.

**А** на ўзгорку за два шагі ад нас стаіць чалавек з чорнаю барадою, у акулярах і крычыць не сваім голасам:

— Таварышы! Сёньня мы сьвяткуем вялікі дзень 1-е мая!

— Якое-ж першае мая?— пытаюся я ў брата,—Сёньня 18 красавіка?

Брат засьмяяўся:

— Гэта ў нас у Расіі яшчэ красавік месяц. А на ўсім сьвеце сёньня 1-е мая. У нас каляндар няправільны.



А чалавек на ўзгорку зноў закрычаў:

— Таварышы! На ўсім сьвеце рабочыя кідаюць работу і стройнымі шэрагамі, са сьцягамі і музыкаю, ходзяць па вуліцы, каб усе бачылі сілу рабочых. Мы яшчэ ня можам нават гэта рабіць. Каб мы вышлі са сьцягамі, дык нас пастралялі-б салдаты, пасадзілі-б у турмы. Мы яшчэ прымушаны хавацца вось тут, у гаі, і ісьці за горад. Але прыдзе час, калі рабочыя перамогуць. Тады ім ня трэба будзе хавацца ў лесе ад паліцыі і жандараў.

— Хто гэта гаворыць?—запытаў я ў брата.

— Прамоўца,—адказаў брат,—партыйны таварыш. Бальшавік з камітэту.

Я нічога не зразумеў, што гэта за камітэт, хто такі бальшавік?

Я ўвесь час на яго глядзеў і дзівіўся, што ў яго такі моцны голас: кожнае слова далёка чуваць.

Раптам ён закрычаў:

— Таварышы, ідзеце ў лес!

Чуем сьвісткі. Доўгія, зычныя.

Натоўп людзей заварушыўся, загаманіў. Пачалі ціснуць адзін аднаго.

А прамоўца падняў руку і ўвесь натоўп перакрычаў:

— Таварышы! Спакойна! Не палохайцеся! Ідзеце ў лес, толькі пацiху і ня ўсе разам.

Толькі гэта ён праказаў, усе сьцішыліся. Нават чуваць было, як чырыкаюць вераб'і.

Пацiху адзін за адным праз лес вышлі на дарогу і вярнуліся ў горад.

А ззаду мы чулі сьвісткі, гоман і тупат конскіх капытоў.



— Хто гэта за намі гоніцца?—запытаў я ў брата.

— Казакі і паліцыя, — адказаў ён. — Дарэмна! Праз гушчар яны на конях не праедуць.

Так і было. Яны не маглі праехаць праз густы лес.

Са злосьці стрэлілі тры разы. Варон у лесе перапалохалі.

**Ш**мат год прашло з таго часу.

У 1918 г. першага мая я быў у Маскве.

Гэта ўжо было пасьля рэвалюцыі. Ва ўсіх календарох гэты дзень быў ня чорны, а чырвоны.

Бальшавікі паправілі каляндар.

Уся Масква была ў чырвоных сьцягох. Чырво-

ныя кукарды зіхацелі на шапках і кашулях. Гулі гудкі, грала музыка.

З усіх бакоў зьбіраўся народ. Зьбіраўся не ў гаі, як раней, а на чырвоным пляцы перад Крамлёўскай сьцяной.

На высокі памост узышоў чалавек і падняў руку. Ён пачаў гаварыць:

— Таварышы! Сёньня на ўсім сьвеце рабочыя сьвяткуюць дзень першага мая. Але толькі мы сьвяткуем гэты дзень вольна.

Як быццам я чуў ужо гэты голас. Я запытаў:

— Хто гэта?

І мне адказалі:

— Старшыня Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту т. Сьвярдлоў.

І я пазнаў старога „партыйца з камітэту".

Такі самы як раней. Толькі быў апрануты ва ўсё скуранае.

**Сягоньня на ўсім сьвеце,**
**Ад краю і да краю,**
**Працоўныя і дзеці**
**Вітаюць сьвята мая.**

НЯХАЙ ЖЫВЕ 1-е МАЯ—СЬВЯТА ПРАЦОЎНЫХ УСЯГО СЬВЕТУ!




Верш ЯКІМОВІЧА
Мал. ПАЎЛОЎСКАГА

Ідуць, ідуць, шагаюць
На сьвята Першамая
Калёна за калёнай—
Працоўных батальёны.

Адзетыя вуліцы
Ў колер чырвоны.
Усюды вясёлыя
Песьні і гоман.

Раз, два!
Цьвярдзей шагай,
Наш пралетарскі
Першамай!

Раз, два!
Шырай дарогу!
І за бацькамі
Стройна ў ногу
Ідуць піанэры,
Ідуць акцябраты,
Ўсюды красуюць
Сьцягі і плякаты:
„Нам пагражаюць




Буржуі вайною—
Гострацъ штыкі
І рыхтуюць зброю...
Наш адказ ім
Самы кароткі:
„Будзем змагацца
За пяцігодку!"
„Гультай, прагульшчык
На заводзе
Толькі працы нашай
Шкодзяць.

Ўсе калгасы і заводы—
За ударную работу!"

Імчацца, імчацца
Аўтамабілі
На іх малышоў—
Дашкалят пасадзілі.
Весела дзецям—
Гамоняць, сьпяваюць,
Сьцяжкамі чырвонымі
Дзеці махаюць:
— **Няхай жыве Першае мая!**



Ідуць, ідуць, шагаюць
На сьвята Першамая
Калёна за калёнай—
Рабочых батальёны.

Працоўныя Гішпаніі,
І Англіі, і Даніі,
І Польшчы, і Кітаю—
Рабочае сьвята
Сягоньня ўсе вітаюць.

Рабочыя сусьвету
Буржуям заяўляюць:
„Прэч рукі ад Саветаў,



Прэч рукі ад Кітаю!
За волю, хлеб і працу
І за сваю уладу
Выходзім мы змагацца
Згуртаваным атрадам!"

Баяцца багатыя
Гэтага сьвята.
Баяцца чырвоных
Дружных калёнаў.
І супраць рабочай
Магутнае масы
Рыхтуюць буржуі
Зброю і газы.

Усюды жандары
Гойсаюць, сочаць
І шашкай ды куляй
Страчаюць рабочых.

Толькі-ж хай знаюць
Буржуі праклятыя—
Не расстраляць ім
Рабочае сьвята!

Блізіцца дзень
І гадзіна расплаты...
**Вольным будзе**
**Рабочае сьвята!**



Нэгрыцянскі піянэр

# Лісты з-за мяжы

Дрэнна жывецца працоўным у капіталістычных краінах. Дрэнна жывецца і дзецям працоўных за мяжой.

Жудасьцю вее ад радкоў тых лістоў, якія мы атрымалі ад дзяцей працоўных з-за мяжы. Гэтыя лісты напісаны там, далёка, галоднымі і зморанымі ад цяжкай працы і голаду дзяцьмі. Гэтыя лісты яны напісалі сваім братом, дзецям, якія жывуць у вольнай краіне—бацькаўшчыне сусьветнага пралетарыяту.

Вось што пішуць дзеці з маёнтку Брухэ, Усходняй Прусіі:

*„Мы працуем у маёнтку барона фон-Купэна. Барон прымушае нас працаваць цэлы доўгі дзень разам з нашымі бацькамі—батракамі. Работа ў нас вельмі цяжкая. Такая цяжкая, што ўвечары мы, зморaныя, ня можам паварушыць ні нагамі, ні рукамі. Тады мы здаволены нават і тым, што рабочыя возчыкі дазваляюць нам пад'ехаць на возе дахаты.*

*Але прыганятаму Клейну не спадабалася, што пасьля працы рабочыя возчыкі дазваляюць нам садзіцца на фурманкі.*

*Прыганяты сказаў: „Гэта занадта цяжка коням вазіць дзяцей".*

*Але і ў гэты вечар мы зноў ехалі на фурманцы.*

*Назаўтра прыганяты за гэта пабіў тоўстым сукаватым кіем тых, хто трапіў яму пад руку.*

*З намі абыходзяцца, як з нявольнікамі.*

*Дрэнна жыць працоўным пры капіталістах.*

*Але мы змагаемся і будзем разам з старэйшымі таварышамі змагацца, каб зьнішчыць капіталізм".*

Нашы таварышы за мяжой гатовы да змаганьня.

*„Я—беспрацоўны,—піша нямецкі рабочы Эміль Віклен. Такіх беспрацоўных у нас шмат. Жыць вельмі цяжка. Дрэнна жыць і нашым дзецям. Нашыя дзеці ходзяць*



Амэрыканскі піянэр

*галодныя, босыя ў такую лютую зіму, як у гэтым годзе, а мы ня маем сродкаў, каб ацяпляць кватэры.*

*У гэты-ж час вялізарныя кучы вугалю ляжаць, агароджаныя калючым дротам, каб беспрацоўныя не змаглі ўзяць яго і ацяпліць свае халодныя хаты".*

Аб чым яшчэ расказваюць лісты?

Аб гераічнай барацьбе працоўных усяго сьвету за лепшае жыцьцё.

Кожны дзень і кожную гадзіну ўсюды ўзьнікаюць арганізаваныя камуністамі забастоўкі на заводах і фабрыках.

*„Доўгі час Рыкардо быў беспрацоўным, цярпеў голад і холад, як і многія рабочыя. Нарэшце, ён ня вытрымаў і парашыў адпомсьціць фашыстам за свае пакуты і пакуты сваіх таварышоў. Ён узяў рэвальвэр і застрэліў двух фашыстаў, якія зьдзекаваліся з яго і з другіх рабочых. На судзе Рыкардо трымаў сябе як сапраўдны сьвядомы рэвалюцыянэр.*

*— Вы камуніст?—пытаецца старшыня суда.*

*— Камуніст.*

*— У вашым доме знойдзены партрэт Леніна і забароненая рэвалюцыйная літаратура.*

*— Так.*

*Яго жонка такая-ж адважная як і ён. Яна сказала мужу: „Ты зрабіў правільна".*

Дзеці працоўных усіх краін—нашы таварышы.

Наш абавязак—дапамагчы дзецям капіталістычных краін, змагаром за вызваленьне. Узмацнім працу ячэек МОПР'у.

Пралетарскія дзеці ўсіх краін і нацый, мы вольныя дзеці Савецкага Саюзу—з вамі!

# ЗАТРЫМАЦЬ РУКУ ЗАБОЙЦАЎ-КАТАЎ!



У штаце Алабама (Амэрыка) буржуазны суд прысудзіў да кары сьмерцю на электрычным крэсьле 8 бязьвінных маладых рабочых—нэграў. Сярод іх адзін мае толькі 14 год.

Гэтым дзікім прысудам буржуазія хоча запалохаць рабочых-нэграў разьбіць адзіны фронт усіх рабочых—і белых, чорных, і жоўтых.

Забойства бязьвінных нэграў-рабочых прызначана на 13 мая. Працоўныя ўсіх краін узьняліся на абарону сваіх братоў па клясе.

На ўсім сьвеце гучыць магутны пратэст супроць гэтага агіднага прысуду.

— Не дапусьціць забойства бязьвінных рабочых-нэграў!

— Затрымаць руку забойцаў-катаў! Такія патрабаваньні працоўных.

Мы, дзеці, павінны ўсе, як адзін, далучыцца да магутнага пратэсту працоўных. У адказ на гэтае забойства—узмацнім сувязь з дзецьмі рабочых буржуазных краін, дапаможам ім у змаганьні за волю, за Савецкую ўладу.

# Прысуд пана настаўніка



Апавяд. АРЦЁМЕНКАВАЙ
Малюнкі ПАЎЛОЎСКАГА

Генрых расплюшчыў вочы. На дварэ ўжо сьвітала.

— Няўжо праспаў?—трывожна ўскочыў ён з ложка.—Не, яшчэ толькі 5 гадзіна. Пасьпею!

Ён скора адзеўся, узяў школьную торбачку, укінуў туды акрайчык хлеба і, зірнуўшы на сонную хворую матку і на маленькую Эльзу, скоранька выбег з хаты.

Ісьці яму трэба было далёка. Яны жылі аж на акраіне гораду, а газэтная ўстанова зьмяшчалася на аднэй з цэнтральных вуліц. Генрых ішоў так скора як толькі мог. Сягоньня ён усё-ж праспаў, а каля газэтнай установы ўжо, мабыць вялікая чарга.

Хіба ў Бэрліне мала такіх дзяцей як Генрых, што з 6—7 год вымушаны зарабляць сабе і бацьком на хлеб?

Хоць і нямнога зарабляе Генрых, але ўсё-ж хворая маці і Эльза не паміраюць з голаду.

Праўда, цяжка прыходзіцца Генрыху зарабляць гэты хлеб. Ён павінен уставаць зранку ў 4—5 гадзін і бегчы па газэты. Атрымаўшы газэты, ён зноў бяжыць па горадзе, каб да школы распрадаць хоць палавіну, бо пан Кашнар, школьны настаўнік

не дазваляе прыносіць газэты ў школу. Прыходзілася хаваць іх у школьным двары.

А пасьля школы Генрых прадаваў астатнія газэты і бег ужо ў другую газэтную ўстанову, каб узяць вячэрніх газэт. Распрадаўшы і гэтыя газэты, Генрых, зморaны, змучаны, прыходзіў дахаты, і, як забіты, кідаўся на ложак.

Сёньня, як і заўсёды, Генрых распрадаў частку газэт, а іншыя схаваў у торбачку і прышоў у школу.

Сэрца яго трывожна сьціскалася.

— Што, калі настаўнік запытае ў мяне верш? Я-ж ня ведаю ніводнага радка.

Учора Генрых так змарыўся, што, разгарнуўшы кніжку, нічога ня мог прачытаць.

І недарэмна трывожыўся Генрых. Яго выклікаў настаўнік.

Першы расказаў верш Отто, чысьценькі, рыжаваты хлапчук. Настаўнік быў задаволены.

— Маладзец!—пахваліў ён.—Сядай!

А потым погляд яго трапіў на худога, бедна адзетага Генрыха. Настаўнік нездаволена зморшчыў бровы.

„І навошта такім старцам дазваляюць вучыцца? Усёроўна толку з яго ня будзе“, думаў ён.

— Генрых Штэйер!

Генрых задрыжаў, устаў і, хістаючыся, падышоў да настаўніка.

— Адказвай!

Але што мог адказваць Генрых, калі ён нічога ня ведаў?

Настаўнік з пагардай усьміхнуўся.

— Ня ведаеш? Чаго-ж ты, галадранец, у школу ходзіш? Ты толькі і ведаеш бегаць па вуліцах.

Генрых спачатку пабялеў, потым пачырванеў.

Што ён мог адказаць пану настаўніку?

— Каб прымусіць цябе вучыцца,—казаў настаўнік далей,— ты два тыдні будзеш па тры гадзіны рыхтавацца ў школе пасьля заняткаў. За гэты час ты вывучыш заданьні.

Генрых яшчэ больш зьбялеў.

— Я не магу...—ледзь чутна прашаптаў ён.

— Што ты ня можаш?—зарагатаў настаўнік.—А ты паспрабуй. Я-ж хачу, каб з цябе рос ня гультай, а працавіты хлопец.



— Я не магу. Дома маці хворая... — яшчэ раз, плачучы, прашаптаў Генрых.

Настаўнік зноў зарагатаў.

— У вас ва ўсіх заўсёды так: ці маці, ці бацька хворы! Вы гультаі, галадранцы і брахуны!

Генрых, нічога ня бачачы перад сабой, сеў на парту. Гэта-ж у яго ляжаць нераспрададзеныя газэты, за

іх заплачаны ўсе грошы, якія мела сям'я. Увечары іх ужо ніхто ня купіць... А ў Генрыха ня будзе грошай, каб купіць новыя газэты.



Але хоць-бы і былі грошы, усёроўна ён прымушаны сядзець у школе, а дома ляжаць будзе галодная, хворая маці і плакаць будзе малая Эльза.

І Генрых сядзеў, нічога ня чуючы, што рабілася ў клясе.

Сёньня настаўнік засудзіў Генрыха, яго матку, малую Эльзу на голад, на сьмерць.

---

**ДЗЕЦІ ПРАЦОЎНЫХ УСЯГО СЬВЕТУ—НАШЫ ТАВАРЫШЫ.**

**БУДЗЕМ ДАПАМАГАЦЬ ГАЛОДНЫМ ДЗЕЦЯМ ЗАМЕЖНЫХ КРАІН.**

**ПОЎНАСЬЦЮ ЗЬБЯРЭМ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ПЯТАЧКІ НА КАРЫСЬЦЬ ГАЛОДНЫХ ДЗЯЦЕЙ.**



ПАДРЫХТОЎКА ДА СЯЎБЫ

Мал. мастака ПАЎЛОЎСКАГА

# ЖАЛЕЗНАЯ КВАКТУХА

Але і сярдзітая стала рабушка. Сядзіць у кошыку, нікога да сябе не падпускае. Калі хто падыходзіць, дык яна натапырыць пер'е, разьзявіць дзюбу—кр-р-ры—нібы праглынуць хоча. Дзеці дзіцячага саду даглядалі яе брыгадамі.

Даглядаць квактуху лёгка было. Кіраўніца гаварыла:

— Калі рабушка выседжвае куранят, дык ня трэба турбаваць яе, ня трэба дражніць яе. Трэба толькі пакарміць, напаіць адзін раз у два ці тры дні.

Аднойчы, дзеці пачулі піск. Паглядзелі, а там маленькія, пухленькія, жоўценькія кураняткі. Дзеці пачалі падлічваць: аж пятнаццаць куранятак. Вось дык малайчына, рабушка!

Калі прышоў Сяргейка першы раз у дзіцячы сад, дзеці былі рады яму. Перш за ўсё яны павялі паказваць рабушку. Дзеці хваліліся.

— Адна рабушка, а вывела пятнаццаць куранят!

Сяргейка ня зьдзівіўся гэтаму.

— Ды што тут дзіўнага?—сказаў ён.

„Чаму не падабаецца яму рабушка з куранятамі?“ думалі дзеці.

Як вышлі на прагулку, дык Сяргейка і кажа:

— От-жа нашлі дзіва—квактуху! Я жалезную квактуху бачыў.

Задумаліся дзеці: няўжо можа быць з жалеза рабушка?

Назаўтра вясёлы прышоў Сяргейка з бацькам у сад.





— Вось татка мой працуе там, дзе жалезная квактуха, і ўсё раскажа пра яе.

Паглядзеў Сяргейкаў бацька на дзяцей і кажа:

— Доўга пра гэта гаварыць трэба, а лепей заўтра мы паедзем туды і вы самі ўсё ўбачыце.

Пашоў Сяргейкаў бацька на працу, а дзеці кажуць:

— Падмануў ты нас, Сяргейка...

Назаўтра нешта [загрукацела пад вакном саду. Кінуліся дзеці да вакна. Бачаць грузавік, а з яго вылез і ідзе ў сад Сяргейкаў бацька.

Праз хвіліну па ўсіх пакоях чуліся дзіцячыя галасы:

— Едзем глядзець жалезную квактуху!

Весела было ехаць полем. Дзеці не маглі дачакацца, каб хутчэй даехаць. Хутка перад імі вырасьлі з-за горкі доўгія, нявысокія будынкі з вокнамі. Гэта і быў птушыны рассаднік.

— Дык вось дзе жыве квактуха!—закрычалі дзеці, злазячы з аўтамабіля.

— Пачакайце, дзеці, не бяжэце адны. Пачнем спачатку,— перасьцерагла кіраўнічка.

І Сяргейкаў бацька пачаў растлумачваць:

— Вось бачыце гэтыя скрыні? Яны высоўваюцца сюды і ў іх накладаюцца яечкі. Пасярэдзіне скрыняў праходзяць трубы, якія награваюцца электрычнасьцю і разносяць цяпло па скрынях. У скрынях павінна быць пэўнае цяпло. Не павінна быць суха, каб ня высахлі яечкі. Гэтыя трубы, напоўненыя вадой, даюць вільготнае цяпло. Яечкі тут ляжаць тры тыдні.

— А квактуха дзе?—перапынілі дзеці.

— Гэта і ёсьць наша квактуха. Інкубатарам яна называецца. Ваша рабушка выседзела пятнаццаць куранят адзін раз за год, а ў нас праз кожныя тры тыдні выходзіць 30 а то і 35 тысяч куранят.

Гэлька аж падскочыла ад такой навіны. Ну і квактуха! Куды там нашай рабушцы да яе! А Сяргейкаў бацька апавядаў далей:

— Пасьля, як выйдуць куранятκі, яны знаходзяцца ў брудэргаўзе. Куранятκам трэба цяпло. Вось гэтыя цынкавыя крыльлі—брудэры, што награвающца электрычнасьцю, грэюць куранятак. Яны тут тысячамі грэюцца, як пад крыльлямі рабушкі. Падрастуць куранятκі, тады пераносім іх у агульны пакой, дзе іх даглядаюць.

Дзеці вельмі зацікавіліся жалезнай квактухай. Рабушка здавалася ім не такой ужо важнай у параўнаньні з інкубатарам.

**І. Кагаоўская.**



# Маленькія памоцнікі



**Апавяданьне А. ЦІТАВАЙ**
**Малюнкі БУЛГАКАВА**

Дні ўжо доўгія і сонейка ўзапішку вельмі добра прыграе. У школе ў гэты час дзеці вывучалі прыроду вясною. Гаварылі пра лес, пра сад.

Пасьля гутаркі настаўніца прапанавала:

— Цяпер, дзеці, пойдзем у калгасны сад. Там мы ўсё ўбачым, аб чым гутарылі.

— І дапаможам калгасу абчысьціць дрэвы ад моху, сабраць абрэзаныя сучкі дрэў у садзе,—парашылі вучні і піянэры. Нават і акцябраты дадалі: „І мы зможам зьбіраць сучкі дрэў“.

— А я буду лічыць, колькі сучкоў прыбраў,—дадае маленькі Валодзя.

— Я ўжо навучыўся лічыць да 100. Во каб прыбраць сто сучкоў!

— А я і болей прыбяру,—перабівае яго акцябронак Волька, бо я старэйшая за цябе і лічыць умею больш як да ста.

Доўга не чакаючы, маленькія



памоцнікі калгасьнікаў перайшлі да працы. Закіпела работа. Сад напоўніўся сьмехам, песьнямі, вясёлым крыкам дзяцей.



Праз дзень увесь сад быў ачышчан.

— Вось як папрыгажэў сад,—аглядаючыся навакол,—кажа Волька.

Больш за ўсіх быў здаволены маленькі Валодзя. Ды як-жа яму ня радавацца: ён прыбраў за гэты час трыста сучкоў (праўда, невялічкіх, але-ж і сам ён маленькі) і добра навучыўся лічыць да трохсот.

— Цяпер я хутка навучуся лічыць і да пяцісот,—з гонарам кажа Валодзя. Ён заўсёды вельмі любіў лічыць і разьвязваць задачкі.

— А нам калгасьнікі купяць у падарунак да першага мая барабан і сыгнал,—крыкнуў Сымонка.—Вось тады лёгка будзе ісьці ў нагу на Першамайскай дэманстрацыі!

— Раз, два, левай!—у адказ Сымонку дадаў Якуб.—Сьмела шагай наперад!

---

**Што зрабіць, калі хто несваечасова атрымлівае часопісь?**

**Даведайцеся аб гэтым на пошце. Калі пошта не наладзіць акуратнай дастаўкі—напішэце аб гэтым у рэдакцыю. Паведамеце нам № квітка, калі здалі падпіску і дзе“.**

# ПАВІННЫ ЎМЕЦЬ МЫ ЦЭЛІЦЦА, УМЕЦЬ СТРАЛЯЦЬ



## Гульня гэта вельмі цікавая

Вазьмеце ліст фанэры мэтры на 2 шырыні і даўжыні, намалюйце твары нашых ворагаў: папа, кулака, буржуя, і ката Пілсудзкага (глядзі малюнак, толькі тут яны зьменшаны).

На месцы роту выражце круглыя дзіркі.

Дастаньце некалькі невялічкіх мячыкаў. Дзіркі роту зрабіце крыху большымі за мячык, каб ён мог вольна праскочыць ў гэтыя дзіркі.

І вось гатова ўсё, што патрэбна для гульні.

Кожны ўдзельнік гульні можа па два разы кідаць мячык ў мішэнь. Выйграе той, хто больш разоў пападзе. Кожнае пападаньне залічваецца за два ачкі. Можна гуляць і групамі, тады падлічваецца, колькі ачкоў выбілі ўсе ўдзельнікі гэтай групы і якая з 2-х груп набярэ больш ачкоў.

Каб цікавей праходзіла гульня, можна зрабіць такую ўмову: няхай той, хто страляе ў якога-небудзь ворага, раскажа, што ён ведае аб ім. Калі раскажа правільна, дык мае права страляць два разы, калі не—адзін раз.

Ці правільны адказ, вызначыць павадыр.

# ПАДУМАЙ

## ЧАМУ ВАДА ПАДНЯЛАСЯ Ў ШКЛЯНКУ?



У сподку з вадой на дне ляжыць манэта. Паспрабуй дастаць яе з вады, не памачыўшы пальцаў.

Ці можна гэта зрабіць?

Паспрабуем. Манэту паложым ля краю сподка. Возьмем шклянку, возьмем кавалак паперы. Запалім паперу і, хутка ўкінуўшы яе ў шклянку, апусьцім шклянку ўверх дном на ваду. Хутка ў шклянцы зьбярэцца ўся вада, а манэта застанецца ляжаць на сухім дне сподка. Цяпер бяры манэту і пальцаў не памочыш.

**А ЧАМУ ВАДА ПАДНЯЛАСЯ Ў ШКЛЯНКУ?**

## АДКАЗЫ НА ЗАГАДКІ з № 6

1. *Каса.* 2. *Млынавыя каменьні.*
3. *Яблык.* 4. *Сьнег.*
5. *Сенажаць і копы сена.* 6. *Яблык.*

Манаграма: *дом, бом, лом, сом.*

**ЗЬМЕСТ**

Першамайская песьня. Сьвята змаганьня і перамог. Дзіўнае сьвята — апавяд. Алейнікава. Першае мая—верш. А. Якімовіча. Лісты з-за мяжы. Затрымаць руку забойцаў-катаў! Прысуд пана настаўніка—апавяд. Арцёменкавай. Жалезная квактуха—апав. І. Каганоўскай. Маленькія памоцнікі — апав. А. Цітавай. Гульня для дзяцей. Падумай. Шуцман і піанэры—мал. Малевіча. Вокладка мастака Рана. Мастацкае афармленьне нумару Ізмайлова.

**З гэтым нумарам рассылаецца дармовы дадатак—п'еска „З ЧЫРВОНЫМ СЬЦЯГАМ“ — А. Пальчэўскага.**

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА, А. ЯКІМОВІЧ.

Цана асобн. № 18 к




Падрыхтаваўся шуцман да свае крывавае работы ў дзень 1-га мая. Але...



„Што там такое залажылі гэтыя піанэры. Можа, бомбу?“. Выпусьціў шуцман рэвальвэр




Аж зэмарыўся, самлеў злосны тоўсты шуцман, пакуль дастаў сьцяжок з-за папругі. Перашкодзілі яму піанэры ў крывавай рабоце.

Друкарня імя Сталіна   Зак. № 798.   4000 экз.   Уп. Галоўлітбелу А—5